Пятніца
30 сакавіка 2007 г.
№ 6 (32)
наклад 299 ас.
Рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч

МП свой горад сваімі рукамі
# ПРАЎДА мастоўская

Калі вы жадаеце атрымліваць у далейшым наша выданне, калі ласка, дашліце sms з паведамленнем адраса, на які павінна прыходзіць "Мастоўская праўда" на нумар:
+ 48 511 22 34 40

## Аўтастаянка - неабходны кампанент сучаснага горада, нават невялікага

**У апошнія некалькі год колькасць машын, якія знаходзяцца ва ўладанні жыхароў г. Масты, значна ўзрасла. З аднаго боку гэта добрая тэндэнцыя, якая сведчыць аб росце дабрабыту грамадзян. З другога жа боку, гэтая тэндэнцыя выяўляе недахопы ў праектаванні развіцця тэрыторыі г. Масты, якія абавязкова неабходна выпраўляць.**



На сённяшні час у Мастах існуе недахоп добраўпарадкаваных стаянак, дзе можна часова пакінуць прыватны аўтамабіль. Асабліва гэтая праблема актуальная для мікраранёна па пр. Міра, пр. Юнацтва і вул. Будаўнікоў, дзе ва ўнутрыдваравых тэрыторыях знаходзіцца вялікая колькасць прыватных аўтамабіляў, якія ствараюць нязручнасці не толькі жыхарам шматпавярховых дамоў, а і спецыяльнай тэхніцы камунальных і аварыйных службаў.

Падчас выбарчай кампаніі ў Мастоўскі раённы Савет дэпутатаў 25 га склікання мае даверанныя асобы і я (Дзмітрый Кухлей), праводзячы апытанне па найбольш важных праблемах, якія хвалююць выбарнікаў, прайшлі ўсе шматпавярховыя дамы і зайшлі амаль у кожную кватэру па Верасоўскай выбарчай акрузе. Тое ж самае было зроблена групай падтрымкі Уладзіміра Шчэкарэвіча па Новай выбарчай акрузе, у якога я быў даверанай асобай. Адной з найбольш важных праблем, якія называлі выбарнікі, што пражываюць на гэтых выбарчых акругах, была перагружанасць дваравых тэрыторыяў прыватнымі аўтамабілямі і адсутнасць стаянкі. Жыхары скардзіліся на тое, што часам з-за вялікай колькасці аўтамабіляў, прыпаркаваных унутры двароў, ствараюцца перашкоды для руху спецтэхнікі жыльлёва - камунальнай гаспадаркі, якая абслугоўвае гэты раён. Многія жыхары дамоў № 7, 9, 11, 11А па вул. Будаўнікоў, а таксама д. № 6 па пр. Юнацтва распавядалі пра выпадак, калі пажарная машына, якая прыехала ліквідаваць пажар у д. № 11 па вул. Будаўнікоў, доўгі час не магла пад'ехаць да гэтага дома на неабходную адлегласць з-за вялікай колькасці аўтамабіляў, прыпаркаваных каля дамоў. Таксама быў выпадак, калі машына хуткай дапамогі не магла пад'ехаць да пад'езда па той жа прычыне. Грамадзяне выказваюць таксама заклапочанасць небяспекай, якую нясе падобная сітуацыя для дзяцей.

16 лютага 2007 г. мною, дэпутатам Мастоўскага раённага Савета дэпутатаў 25 га склікання Дзмітрыем Кухлеем, быў скіраваны зварот на імя А. Шафарэвіча, старшыні Мастоўскага райвыканкама, у якім патлумачана сітуацыя з перагружанасцю аўтамабілямі дваравых тэрыторыяў. Аднак як вынікае з атрыманага мною адказу, падпісанага Г. Снітко, намеснікам старшыні Мастоўскага райвы-

*працяг на с.2*

## У Беларусі адзначаюць ўгодкі канцлера Льва Сапегі

**4 сакавіка спаўняецца 450 гадоў зь дня нараджэньня Льва Сапегі. Палітычны, грамадзкі і вайсковы дзеяч, дыплямат і мысьляр паходзіў са старажытнага роду аршанскай шляхты. У спадчыну нашчадкам ён пакінуў Статут Вялікага княства Літоўскага, які быў напісаны на беларускай мове.**

Гэты збор законаў быў фактычна першы ва Усходняй Эўропе. Адлюстраваньнем таго, што юрыдычная навука ў Эўропе зрабіла. Статут дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі, Літвы й правабярэжнай Украіны ажно да XIX стагодзьдзя. У Беларусі быў скасаваны царызмам, а менавіта Мікалаем I, у 1848 годзе. Настолькі ён быў распрацаваны. Цяпер у Сарбонскім унівэрсытэце студэнты юрыдычнага факультэта цягам сэмэстра штудзіруюць дакумэнт, які рэдагаваў Леў Сапега.



**Леў Сапега (4.4.1557–7.7.1663). Беларускі дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Са старэйшай, чарэйскай лініі магнацкага роду Сапегаў, сын Івана Сапегі, старосты драгічынскага і падстаросты аршанскага, і Багданы Друцкай-Саколінскай. Пісар вялікі ВКЛ у 1581–85, падканцлер у 1585–89, канцлер у 1589–1623, ваявода віленскі з 1623 і адначасова гетман вялікі з 1625. Добра ведаў замежныя мовы. У 1584 ва ўзросьце 27 гадоў падпісаў у Маскве пагадненьне аб новым перамір'і. Узначальваў соймавую камісію па падрыхтоўцы Статута Вялікага княства Літоўскага 1588, адрэдагаваў яго тэкст і фінансаваў яго выданьне ў віленскай друкарні Мамонічаў. З 1589 як канцлер стаў кіраўніком зьнешняй і ўнутранай палітыкі ВКЛ.**

падрыхтаваў А. К.

## У Беларусі на афіцыйным уліку – 15 тысяч наркаманаў

**Каля 15 тысяч жыхароў Беларусі афіцыйна стаяць на ўліку як залежныя ад наркотыкаў. Такую лічбу назваў сёньня першы намесьнік міністра ўнутраных спраў Беларусі Аляксандар Шчурко, выступаючы ў Палаце прадстаўнікоў.**

Колькі ў краіне няўлічаных наркаманаў – невядома. Калі ў мінулыя выходныя на дыскатэцы ў адным з абласных цэнтраў міліцыя правяла абсьледаваньне, то высьветлілася, што 50 маладых людзей знаходзіліся ў стане наркатычнага ап'яненьня.

Расьце і колькасьць падпольных наркатычных лябараторыяў. Толькі сёлета іх зьліквідавана тры.

Радыё "Свабода"

РАЗАМ ДЛЯ МАСТОЎ

# Аўтастаянка неабходны кампанент сучаснага горада, нават невялікага

канкаму, мясцовыя выканаўчыя органы не разглядаюць гэту сітуацыю ў якасці праблемнай. У адказе канстатуецца, што "усе ўладальнікі аўтатранспарту маюць гаражы, участкі пад будаўніцтва стацыянарных, або пад усталяванне часовых гаражоў у раёнах гаражнай забудовы па вул. Кальцавой і Зялёнай. Адсутнічаюць праблемы выдзялення участкаў пад будаўніцтва і ўсталяванне гаражоў усім жадаючым грамадзянам горада." Аднак пералічаныя факты ніяк, або не ў вялікай ступені ўплываюць на вырашэнне праблемы з перагружанасцю дваравых тэрыторыяў аўтамабілямі. Калі доктар прапісвае пацыенту таблеткі ад галаўнога болю, пасля прыёму якіх боль не знікае, ці значыць гэта тое, што пацыент не хворы ён жа прымае таблеткі? Так жа і ў нашым выпадку - нягледзячы на прымаемыя захады, праблема ўсё адно існуе . Магчыма трэба большую ўвагу надаваць меркаванню грамадзян па гэтай праблеме, выслухаць іх прапановы? У адказе таксама гаворыцца пра магчымасць пабудовы ахоўваемай аўтастаянкі на тэрыторыі прадпрыемства "Мастоўская сельгастэхніка", аднак пытанне яшчэ толькі "прапрацоўваецца". Акрамя таго, плануемая стаяка знаходзіцца даволі далёка ад мікраараёна па Міра, пр. Юнацтва і вул. Будаўнікоў, таму ўсё роўна будуць запатрабаваны невялікія месцы для часовай паркоўкі прыватных аўтамабіляў.

Праблема застаецца і патрабуе абавязковага вырашэння. А дзеля таго каб гэтае рашэнне было эфектыўным і задавальняла ўсе зацікаўленыя бакі, неабходна максімальна павысіць узровень удзелу грамадзян у прыняцці рашэння і распрацоўцы найбольш прымальных для ўсіх бакоў варыянтаў.

**Дзмітрый Кухлей**
**дэпутат Мастоўскага раённага Савета дэпутатаў**

## Цытата

*…Дзе мой край?*
*Там, дзе людзі ніколі ня будуць рабамі,*
*Што за поліўку носяць ярмо ў безнадзейнай турме,*
*Дзе асілкі-хлапцы маладымі ўзрастаюць дубамі,*
*А мужчыны, як скалы, - ударыш, і зломіцца меч.*
*Дзе мой край?*
*Там, дзе мудрыя продкі ў хвоях паснулі,*
*Дзе жанчыны, як радасны сон у стагах на зары,*
*А дзяўчаты, як дождж залаты.*
*А сівыя матулі,*
*Як жніўё з павуціньнем і добрае сонца ўгары…*

**Ўладзімір Караткевіч**
**"Беларуская Песьня"**

**Ад рэдакцыі:** Наша выданне з задавальненнем друкуе лісты сваіх чытачоў. Што тычыцца Дзмітрыя Кухлея, МП ёсьць адзіным выданнем, праз якое існуе магчымасць данесці праўдзівую інфармацыю да яго выбарнікаў . Рэдакцыя Мастоўскай раённай газеты "Зара над Нёманам" у парушэнне закону "Аб статусе дэпутата мясцовага Савета" адмаўляецца друкаваць яго артыкулы, нягледзячы на актуальнасць і важнасць для грамадзян інфармацыі, якая змяшчаецца ў артыкулах дэпутата Дз. Кухлея. Інфармацыйная блакада, якую вядуць беларускія ўлады як на мясцовым, так і на нацыянальным узроўні, значна шкодзіць інтарэсам простых грамадзян, якія не могуць з-за гэтага даведацца аб карыснай для сябе інфармацыі.

## ЗАТРЫМАННІ

**Напярэдадні нацыянальнага свята беларусаў Дня Волі, якое традыцыйна адзначаецца 25-га сакавіка, беларускія ўлады зноў жа звярнуліся да рэпрэсіўных практык у адносінах да дэмакратычных актывістаў.**

У Мастах былі затрыманы і асуджаны А. Зарэмбюк, дэпутат Мастоўскага Савета дэпутатаў 24-га склікання, і Дзмітрый Кухлей, дзеючы дэпутат Мастоўскага Савета, за дробнае хуліганства паводле арт. 14.1 КоАП РБ. На жаль рэдакцыі пакуль не ўдалося звязацца з палітыкамі за каментаром наконт затрыманняў.

23 - 25 га сакавіка ўся мастоўская міліцыя працавала ў надзвычайным рэжыме, адсочваючы маладых актывістаў дэмакратычнага руху, аднак ёй не ўдалося затрымаць больш нікога. З некаторымі маладымі актывістамі дэмакратычнага руху была праведзена тлумачальная работа аб устрыманні ад паездкі ў Мінск дзеля адзначэння нацыянальнага свята беларусаў - Дня Волі.

Па краіне напярэдадні і пасля 25-га сакавіка было затрымана каля 100 чалавек. Сярод іх старшыня партыі БНФ Вінцук Вячорка, які быў затрыманы міліцыяй адразу пасля таго, як з сваім сынам выйшаў з кватэры і нібыта пачаў адразу "нецэнзурна лаяцца".

А.К.

# Што пакажа незалежнае ТВ "Белсат"?

**Пачатак вяшчаньня першага ў гісторыі незалежнага спадарожнікавага тэлевізійнага каналу заплянаваны на восень.**

Вяшчаньне ладзіцьмецца з тэрыторыі Польшчы. Галоўная задача каналу — забясьпечыць беларусаў незалежнай і аб'ектыўнай інфармацыяй. Паводле задумкі стваральнікаў, канал ня будзе прапагандысцкі — прапаганды зь лішкам хапае на беларускіх «кнопках». Замест таго, паводле канцэпцыі «БЕЛСАТ», тэлегледачам будуць прапанаваныя цікавыя і вартыя даверу праграмы.

Асноўная мова вяшчаньня — беларуская. На роднай мове будуць гаварыць усе журналісты і вядоўцы новага тэлеканалу. Аднак калі госьць у студыі ці суразмоўца журналіста захоча адказваць па-расейску — ягоных словаў перакладаць на беларускую ня будуць.

На першым этапе «БЕЛСАТ» вяшчацьме 15 гадзінаў на суткі, а ў этэры каналу будзе 17 уласных праграмаў.

Дзесяціхвілінавыя «Навіны дня» плянуецца рыхтаваць штодня. Выходзіць у этэр яны будуць а 17.00. Пасьля гэтага праграма будзе паўтарацца праз кожныя тры гадзіны. Навіны будуць грунтавацца на відэаматэрыялах, атрыманых зь Беларусі, але запісвацца ў студыі ў Варшаве.

Праграма «Беларусь, Беларусь» — гэта галоўная штотыднёвая праграма, якая прэзэнтуе меркаваньні ды ацэнкі экспэртаў. Запісвацца яна будзе ў Беластоку ці ў Варшаве і прадугледжвае запрашэньне гасьцей у студыю.

«Агляд незалежнае прэсы» — штодзённая праграма, заснаваная на матэрыялах беларускіх недзяржаўных СМІ. Апроч таго, у агляд уключацць і матэрыялы па нашай краіне, апублікаваныя ў вядучых сусьветных выданьнях. У рамках праграмы прадугледжаныя найпростыя ўключэньні з рэдакцыяў беларускіх сродкаў масавай інфармацыі, кароткія інтэрвію з гасьцьмі студыі.

Яшчэ адна праграма — «Пад знакам Пагоні» — праграма пра гісторыю Беларусі. У яе аснову лягуць малавядомыя факты беларускай гісторыі. Матэрыялы для праграмы будуць здымацца беспасярэдне ў нашай краіне.

«Незалежная сцэна» прэзэнтуе тэлегледачам беларускіх артыстаў, якія з розных прычынаў пазбаўленыя магчымасьці зьяўляцца на беларускіх дзяржаўных каналах. У праграме гучацьме розная музыка — ад народнай да року.

«Беларускі андэрграўнд» прэзэнтуе беларускіх дзеячоў культуры, якія жывуць і працуюць за мяжой, «Мы адсюль» распавядзе пра розныя куткі Беларусі, пазнаёміць зь іхнымі жыхарамі, а «Хто ёсьць хто ў Беларусі?» — пра выбітных асобаў у айчынным сацыяльным, культурным і палітычным жыцьці.

Апроч таго, у этэры «БЕЛСАТ» будуць такія праграмы, як «Госьць тыдня», «Студэнцкая думка», «На мяжы» ды інш. Таксама ў этэры будуць дэманстравацца мастацкія ды дакумэнтальныя фільмы, створаныя ў Беларусі, Польшчы ды іншых краінах.

На жаль, паглядзець новы канал здолеюць толькі ўладальнікі спадарожнікавых антэнаў. Аднак, паводле дасьледаваньняў, што ладзіліся стваральнікамі «БЕЛСАТ», іхны лік трывала расьце. Сёньня спадарожнікавым тэлебачаньнем крыстаюць 7,2% жыхароў Беларусі (у 2003 г. — толькі 1%).

**паводле "Наша Ніва"**

**МАСТОЎСКАЯ ПРАЎДА**
грамадзка-інфармацыйнае выданне Мастоўшчыны
№ 6 (32)30 сакавіка 2007 г.
**Заснавальнік: Аляксандр Зарэмбюк.**
дэпутат 24 склік. Мастоўскага райсавета.
**Галоўны рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч.**
**Вёрстальшчык: Сяргей Губарэвіч.**
Наклад: 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: г. Масты вул. Я.Купалы 1 . Беларусь.
e-mail: **masty06@yahoo.com**
Надрукавана на фінасавыя ахвяраванні жыхароў г. Масты ў друкарні ААТ Бліц-Прынт, г. Кіеў вул. Даўжэнка, 9.
Выходзіць 1 раз на тыдзень.
**Распаўсюджваецца бясплатна.**
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць інфармацыі. Іх меркаванне можа не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязкаў.